Przesyłka opłacona ryczałtem

Nr 5 Субота 6-га Сакавіка 1926 г. м. Вільня Год I

# БЕ[…]УСКАЕ СЛОВА

m. Wilno ul. Bakszta N 15 Dubiejkowski

Выходзіць ра[…] Цана нумару 20 грош.

**Нацыянальнае адраджэньне.—Тэрытарыяльная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе уласнасьці. — Шырокі дэмакратызм. — Барацьба з комунізмам. — Нацыянальная царква. — Краёвая згода. — Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.**

Падпісная цана на 1 месяц 1 зл.
„ „ „ 3 „ 2 зл. 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno; ul. Niemiecka 1 Hotel „Sokołowski" pokój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 12 — 2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам—20 гр сярод тэксту — 25 гр. і на апошняй стр.—15 гр. за радок.

# ПАДГАЙСКІ КОНФЛІКТ.

У зьвязку з уваходам Нямеччыны ў Раду Лігі Народаў, узьнялася барацьба за прыняцьце ў Раду Лігі і Польшчы. Справай уваходу Польшчы ў Раду Лігі асабліва зацікаўлена Францыя, якая хоча гэткім чынам стварыць у Радзе пэўную раўнавагу сіл і ня даць немцам перавагі ўплываў. Наадварот, для немцаў гэты уваход зусім не пажаданы. І яны напружваюць усе сілы, каб не дапусьціць Польшчу ў Раду Лігі. З характэрнай для нямецкай палітыкі неразборчывасьцю ў сродках,—немцы паднялі цэлую буру ў сваей і заграничнай прэсе і робяць усё, каб скампрамітаваць Польшчу.

Усе прыяцелі і спагадчыкі немцаў дружна падтрымліваюць іх у гэтай антыпольскай акцыі.

Зусім зразумела, што, пад уплывам Бэрліна, заварушыліся і ўсе тыя, каму Польшча была і ёсьць сольлю ў воку, бо ўваход Польшчы ў Раду Лігі, з аднаго боку, будзе сцьверджаньнем яе вялікадзяржаўнасьці, а з другога — дасьць ёй магчымасьць з большай аўтарытэтнасьцю бараніцца на форуме Лігі ад выпадаў проці яе.

І вось, на гэтых днях, выступілі з чарговай авантурай і літоўцы. Ня гледзячы на ўсе дасюлешнія няўдачы і на адсутнасьць маральнага падтрыманьня з боку насяленьня Віленшчыны, яны ня хочуць адмовіцца ад прэтэнзыяў на гэтую тэрыторыю. Але, ня гледзячы на вялікі задор і ўпартае жаданьне атрымаць Віленшчыну, на нешта сур'ёзнае ім не хапае адвагі Ўся акцыя іх абмяжоўваецца нападамі шаўлісаў, гвалтам на ўсю Эўропу, ды падняцьцем пытаньня аб Віленшчыне і Лізе Народаў. Тое, што Ліга не дае ходу гэтаму пытаньню не спыняе дамаганьняў Літоцаў. Яны зусім адкрыта рыхтуюцца да „вызваленьня" Віленшчыны, зьбіраюць на гэту мэту грошы, арганізуюць у Коўні „камітэт вызваленьня Вільні", ўтрымоўваюць атрады шаўлісаў. Аднак, далей выпадаў на манер бальшавіцкіх „закардотаў" справа ня ідзе.

Цяпер шаўлісы зрабілі чарговую сваю авантуру: аружна захапілі кавалак прыгранічнага лесу. Ўся спрэчка фактычна ідзе аб 5-х дзесяцінах дрэннага падгайскага ляску, ў якім ані Літва ані тым больш Польшча, якая мае вялікія лясныя абшары, зацікаўлены быць ня могуць. Але ў зьвязку з пераменай міжнароднай сытуацыі, літоўцам патрэбны быў повад для новай шуміхі. Як мы ўжо зазначалі, на форум міжнароднай палітыкі выплывае Нямеччына-стары прыяцель Літвы і закляты вораг Польшчы. І вось Літва робіць усё ад яе залежнае, каб стварыць новы скандал, акурат у той мамэнт, калі будзе разшацца пытаньне аб прыняцьці Польшчы ў Раду Лігі. Толькі гэтым можна вытлумачыць усю тую шуміху, якая робіцца з за маленечкага ляска.

Мы, жыхары Віленшчыны, добра разумеем, што гэты дробны і нязначны пагранічны інцыдэнт будзе раздмуханы літоўцамі і немцамі да разьмераў міжнароднага конфлікту. Мы таксама пэўны, што гэты падгайскі інцыдэнт будзе выкарыстаны Літвой яшчэ і з мэтай падняцьця ізноў ў Лізе Народаў пытаньня аб Вільні і Віленшчыне.

І вось мы, як *беларуская большасьць* Віленшчыны, заяўляем: ніколі Літве ня бачыць Віленшчыны ў сваіх межах! Уся прэтэнзыя Літвы на Вільню, як на сталіцу „Вялікага Князьства Літоўскага„ выглядае зусім не сур'ёзна, бо кожны, хаця крыху знаёмы з гісторыяй гэтага Князьства, ведае, што фактычна яно было *не Літоўское, а Беларускае.* Усе сваі прэтэнзыі літоўцы будуюць толькі на назове. Што-ж датычыцца сучаснага этнографічнага складу Вільні і Віленшчыны, дык калі Вільня па большасьці жыхароў ёсьць польскім местам, то Віленшчына, таксама па большасьці жыхароў, — ёсьць беларускай, а літоўцы складаюць тут зусім нязначны працэнт. І нават калі-б Літве ўдалося зацікавіць Лігу Народаў справай Віленшчыны, дык пры праверцы аказалася-б, што абшары Віленшчыны, калі ў большасьці не польскія, дык зусім не літоўскія, а—беларускія.

Мы-ж беларусы, ніколі не дапусьцім, каб літоўцы зрабілі Вільню сваей сталіцай.

З другога боку, каб назаўсёды выбіць з рук літоўцаў (а таксама і бальшавікоў, якія прэтэндуюць на ўсю Заходнюю Беларусь, разам з Вільняй) аружжа ў гэткім пытаньні і не даваць ім магчымасьці рабіць з гэткіх асобных інцыдэнтаў міжнародных скандалаў, — абшар Віленшчыны, разам з рэштай „Крэсаў", павінен быць *бязумоўна выдзеляны ў асобную тэрыторыяльную адзінку*, зьвязаную з Дзяржавай, але зусім аўтаномную ў сваім унутраным жыцьці.

Толькі гэткім спосабам можна назаўсёды спаралізаваць усе правакацыйныя дамаганьні суседзяў. Ад гэтага выйграе і насяленьне „Крэсаў", выйграе і Дзяржава, як у сваёй унутранай крэпасьці, гэтак і на міжнародным форуме.

# Палітычны агляд.

На прошлым тыдні у Парыжы пачаліся француска савецкія эканамічныя перагаворы. Гэта ўжо другая конфэрэнцыя пасьля прызнаньня Францыяй улады бальшавікоў de jure, якое адбылася 2. кастрычніка 1924 г. Трэба зазначыць, што Францыя, таксама як і Англія, прызнала бальшавікоў без усякіх варункаў. Гэта значыць, што ўсе спрэчныя справы маюць быць вырашаны шляхам перагавораў на будучых конфэрэнцыях.

Дзеля таго, каб зразумець гэты пасьпешны і здавалася-б незразумелы крок Францыі, трэба ведаць з аднаго боку ўнутраную і вонкавую фінансавую сытуацыю Францыі, у якой яна апынулася пасьля сусьветнай вайны, а з другога—фінансавыя адносіны яе да Расеі. Як аблічыў Гэрсэнт, Францыя, з прычыны сусьветнай вайны, панясла страты каля 800 мільярдаў залатых франкаў. Дзеля пакрыцьця гэтай суммы, французы спадзеваліся атрымаць ад Нямеччыны прынамсі 400 мільярдаў залатых марак адшкадаваньня.

Але Нямеччына не згадзілася заплаціць нават 35 мільярдаў марак, у рэзультаце чаго хаўрусьнікі акупавалі Прырэйнскую вобласьць. Цяпер, на падставе пляну Дауса, Нямеччына плаціць па аднаму мільярду ў год усім перам жцам. У рэзультаце гэтага Францыі прыйшлося самой пакрываць кошт вайны і тыя выдаткі, якія яна зрабіла для адбудовы зьнішчаных вайной тэрыторыяў. А кошты гэтыя, як ведама, дасягаюць вялізарнай сумы. Толькі выдаткі на адбудову зьнішчаных вайною тэрыторыяў і на пэнсыі ўдовам і інвалідам да 1 студня 1924 г дасягалі 120 мільярдаў франкаў. А ўвесь унутраны доўг Францыі Амэрыцы дасягае—15 мільярдаў залатых франкаў, Англіі таксама 15 мільярдаў зал. франкаў. Адных толькі працэнтаў па гэтым даўгам трэба плаціць кожны год 3 мільярды залатых франкаў.

Гандлёвы загранічны доўг Францыі дасягае 40 мільярдаў франкаў паперовых. Пры гэтым трэба зьвярнуць увагу на тое, што Францыя за ўвесь час ад пачатку вайны, амаль што нікаму не плаціла ні даўгоў, ні працэнтаў па ім, а значыцца і агульная сума даўгоў цяпер ужо значна павялічылася. Францыі-жа ўсе дзяржавы разам, ня лічачы Расеі, павінны толькі 15 мільярдаў франкаў паперовых.

Цяпер лёгка зразумець, дзеля чаго Францыя гэтак упарта імкнецца да паразуменьня з Саветамі. Расея, як ведама зьяўляецца найвялікшым даўжніком Францыі. Паводле аблічэньня „Office des Biens et Interets Prives" пры францускім міністэрстве замежных справаў, сума францускіх капіталаў, зьмешчаных у рожных расейскіх паперах, дасягае $11 \frac{1}{4}$ мільярдаў зал. франкаў. Вартасьць-жа прыватнай маемасьці, якую зрабавалі бальшавікі, дасягае 7 мільярдаў зал. франкаў, ці разам $18 \frac{1}{4}$ мільярдаў зал. франкаў. Лічба жа французаў, якія маюць фінансавыя прэтэнзіі да Расеі, перавышае 6 мільёнаў чалавек.

На пакрыцьцё гэтай вялізарнай сумы застаўшыхся ў Расеі капіталаў Францыя мае: 1) 322 мільёна зал. франкаў, выплачаных бальшавікамі немцам на падставе Брэст-Літоўскага дагавора, якія цяпер знаходзяцца ў францускім банку, 2) 308 міл. франкаў, якія палажыў у францускі банк расейскі царскі ўрад, 3) 26 міл. фр. перавезяных з Салонік: 4) 24 міл. руб., якія, на падставе версальскага трактату, перадала Францыі Нямеччына ў кастрычніку 1921 г. і 5) ваенны марскі флёт гэн Врангэля. Гэта ўвесь чарнаморскі ваенны флёт Расеі, які цяпер стаіць у Бізэрце (Туніс), каля паўночнага берага Афрыкі.

Над пытаньнем аб гэтым флёце трэба больш застанавіцца дзеля таго што ён мае вельмі вялікую вартасьць для бальшавікоў. Саветы ня маюць цяпер у Чорным моры гэткага флёту, які даваў-бы ім перавагу над усімі чарнаморскімі дзяржавамі. І ўсе імкненьня бальшавікоў да паразуменьня з Францыяй маюць галоўную мэту — атрымаць ад яе гэты флёт. Трэба зазначыць, што караблі, якія ўваходзяць у склад гэтага флёту — пераважна новага тыпу. Разам з крэйсерам „Нахімовым„ і некалькімі падводнымі лодкамі, якія маюць бальшавікі цяпер у Чорным моры флёт Врангэля дасьць бальшавікам бязумоўную перавагу на гэтым моры. Дык зусім зразумелы тыя пратэсты і шум, якія паднялі Турцыя, Грэцыя, Баўгарыя, Румынія і нават Польшча, калі ў леташнім годзе, ў часе першых француска-савецкіх перагавораў разыйшлася пагалоска, што Францыя маніцца перадаць бальшавікам флёт гэн Врангэля. Гэта дала-б бальшавікам магчымасьць трымаць Румынію,

